

BELARUSAN CANADIAN COORDINATING COMMITTEE
КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
COMITE BIELORUSSIEN DE COORDINATION AU CANADA

---

КАМУНІКАТ Но. 4 (35 ад 1991), Чэрвень, 1999.

## ТРАГЭДЫЯ Ў БЕЛАРУСІ.

**30 траўня ў Менску ў выніку трагічнага выпадку загінулі 53 асобы. пераважна моладзь, былі параненыя сотні людзей.**

**Суродзічы на эміграцыі, а ў прыватнасьці ў Канадзе, выказваюць глыбокія спачуваньні сем'ям згінуўшых, параненым, усяму беларускаму народу.**

**Беларуская грамадзкасьць замежжа падтырымвае незалежнае расьследаваньне прычынаў трагэдыі дзеля перадухіленьня падобнага ў будучыні.**

---

## 11-ае ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КОМПЛЕКСУ Ў Martyrs' Shrine in Midland, Ontario, Canada.

19 чэрвеня, у суботу адбылося 11-ае з чаргі паломніцтва да Беларускага памятнага комплексу, што ў прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў ў Мідлянд, Канадзе.

Беларускі памятны комплекс складаецца з , пабудаванага ў 1988 годзе для адзначаньня тысячыгодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі, Беларускага памятнага Крыжа, і Помніка Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі, узьнесенага й асьвячанага ў часе 8-га Паломніцтва да Беларускага памятнага Крыжа 1-га чэрвеня, 1966 году. Ад часу ўзьняцьця ў прошчы Беларускага памятнага Крыжа кожны год адбываюцца да яго паломніцтвы, і гэтак сялетняе было адзінаццатым.

Сьвятаром паломніцтва быў малады айцец Джэймс Кэлі, які быў адным із сьвятароў леташняга юбілейнага паломніцтва. Багаслужба пачалася ў касьцёле а 10:30 раніцы. Айцец Джэймс парывітаў беларускае паломніцтва й паведаміў прысутных, сярод якіх былі ня толькі паломнікі, што Багаслужба прысьвечана малітвам за Беларусь і беларускі народ.

Сялетняе паломніцтва мела іншы , як папярэднія, характар. Большую частку паломнікаў тварылі маладыя людзі ды дзеці з новай беларускай эміграцыі.

---

54 Mary St., Barrie, Ont. Canada, L4N 1T1. Tel/Fax (705) 725-8654

Сярод іх быў айцец Юры, малады сьвятар з БАПЦарквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Ён із сьвятым Крыжам ачольваў працэсію да Беларускага «шрайну» - сьвятога мейсца. Бел-чырвона-белыя сьцягі ў руках паломнікаў сьведчылі перад людзьмі й Богам, што й у Канадзе Жыве Беларусь! Заміж Акафісту да Сьвятой Багародзіцы ў часе працэсіі сёлета пяялі мы пад кіраўніцтвам айца Джэймс Кэлі ўрачысты гімн "Immaculate Mary".

Абапал Беларускага памятнага комплексу ўзьвіваліся канадыйскі й бел-чыурвона-белы беларускі сьцягі. Перад Беларускім Крыжам красаваўся вялізны букет кветак прывезеных із Слуцку, што каля Пэры Саўнд, Віктарам Касьцюкевічам. Перад помнікам Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі гарэлі ў шаснацацьцёх лямпёнах сьвечкі. Паміж сьвечак ляглі памяці пакутнікаў Беларусі букеты кветак.

Малітоўныя ўрачыстасьці перад Беларускім Крыжам й Помнікам ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі адкрыў айцец Джэймс Кэлі. Ён выразіў шкадаваньне , што ня можа гаварыць да нас пабеларуску, хоць, кажа, павінем бы быў, бо зь дзяцінства ён знаёмы зь беларускім жыцьцём у Канадзе. Ён зьвязаны й зь Беларускім Крыжам ў прошчы. Добра памятае, як адзінаццаць год таму ў майстэрні прошчы будаваўся наш крыж. Ён разам з бацькамі браў удзел у беларускіх паломніцтвах. Таму беларускі «шрайн» і беларускія паломніцтвы блізкія ягонай душы, ды яны малітвамі ўзбагачаюць - збольшваюць сьвятасьць усяе прошчы.

Затым айцец Юры сьпеўным, на літургічны лад усходняга абраду , голасам адпраляў Багаслужбу за Памерлых:

«У супакоі Госпаду памолімся: **За слуг Божых: Верных сыноў і дочак беларускага народу, якія нявінна цярпелі перасьледы і мучэньні ў вязьніцах, на катаржных работах і на выгнаньні ад Тваіх і нашых ворагаў;**

**І якіх аддавалі на лютую сьмерць за тое, што яны любілі свой народ і жадалі яму лепшае долі, і пашаны ягонай чалавечай і нацыянальнай годнасьці.**

І за слуг Божых: **Кіраўніка пабудовы Беларускага Крыжа Вінцэнта Жук-Грышкевіча, паэтку Натальлю Арсеньневу-Кушаль. айца Джэймс Фаррэл,**

і за паломнікаў: **Міколу Ганька, Янку Сурвіллу, Морыса Мэрдак, Міхася Махнача, Леакадыю Бычко, Тома Кюлі, Еўдакію Жызьнеўскую, Марыю Каладзейскую, Баляслава Лішчонка, Галену Гарадэцкую.**

На канец Багаслужбы запялі мы ім **«Вечную памяць»**.

За тым айцец Юры чытаў

**<u>МАЛІТВЫ ЗА БОГАМ СЬЦЕРАЖОНУЮ КРАІНУ НАШУ БЕЛАРУСЬ</u>**
**І ЎВЕСЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД**

**- Каб гаспод Бог захаваў нашу краіну Беларусь свабоднай і ў супакоі. . .**

- **Каб беларускаму народу** й ўсім нам выбавіцца ад усякіх бедаў, суму гневу й недастатку

- Каб Гаспод міласьціва прыняў малітвы нашыя.... і зьмілаваўся над беларускім народам і над усімі намі. . . І маліліся мы:

**«Сусьветны Ўладару, спрадвечны Божа (. . . .)**
**Мы, дзеці беларускага народу (. . . )** Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашыя правіны (. . . ) даруй таксама тым, хто крыўдзіў нас і зьневажаў.

Барані нас ад крыўды варожае і дай нам і ворагам нашым духа справядлівае хрусьціянскае любові.

Дай нам еднасьць веры, згоду ў грамадзкім і сямейным жыцьці, загаі нашы асабістыя й народныя раны душы, якія мы самі сабе ўчынілі, або ад няпрыяцеляў атрымалі.

Асьвяці наш розум Тваім евангельскім сьвятлом, каб мы, захоўваючы Твае прыказаньні, перамагалі ўсе цяжкасьці і цярпеньні і заўсёды Цябе блаславілі.

Пашлі беларускаму народу ахвярных слугаў сваіх, якія праведным, сумленным і мудрым жыцьцём і дзейнасьцьцю вялі-б яго да лепшае долі.

Дай нам сьватое духавенства. Блаславі нашы сем'і. Асаблівую ласку дай моладзі, каб яна атрымала глыбокае хрысьціянсйкае ўзгадаваньне і вырасла на карысных сыноў і дачок свайго народу.

Блаславі нашы дачасныя дастаткі, ня дай гінуць марна тым талентам, якія Ты пасылаеш у наш народ, але дай ім свабодна разьвівацца і закрасаваць Табе на славу і ўсяму людзтву на карысьць,

Блаславі працу сялянаў на ральлі, работнікаў у фабрыках, вучоных, пісьменьнікаў , мастакоў, каб зь іхняй дапамогай беларускі народ мог разумна і прыгожа жыць і разьвівацца.

**Цябе, Усячыстая Багародзіца** і нашая нябесная **Маці,** просім: пакрый нашу краіну сваім сьвятым поктрывам і будзь нашай апякункай і заступніцай.

**І Ты, сьвятая Еўфрасіньня Полацкая,** асьветніца Беларусі, і ўсе сьвятыя заступнікі беларускага народу, маліцеся за нас , каб мы сталіуся народам сьвятым, які выконвае волю Божую і сваё пасланства, і каб мы ўнесьлі свой уклад у агульнае дабро тут на зямлі, а ў прышлым жыцьці атрымалі вечнае шчасьце , і аддавалі славу, пашану й пакланеньне Богу ў Тройцы адзінаму, Айцу , і Сыну, і Сьвятому Духу, цяпер, заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.

Слава Табе Гопадзе, Слава Табе !

Пасьля Багаслужбы ля Крыжа каардынатар паломніцтва, Раіса Жук-Грышкевіч падзякавала айцом: Джэймс і Юры, усім паломнікам ды семям Кэлі й Мэрдакам, якія ад самага пачатку заўсёды былі дзейнымі й ахвярнымі ўдзельнікамі беларускіх паломніцтваў. На жаданьне прысутных расказала гісторыю паўстаньня Беларускага памятбнага комплксу ў прошчы ў Мідлянд і зачытала верш Натальлі Арсеньневвай, прысьвечаны асьвячэньню Беларускага памятнага Крыжа - **«КРЫЖ».**

Айцец Джэймс сьвятой вадой асьвяціў Крыж , помнік Ахвярам камуністычнага тэрору ў Беларусі й усіх нас прысутных.

Урачыстым пяяньнем гімну **«Магутны Божа»** закончылася малітоўная частка 11-га паломніцтва.

У прыветлівым цені дрэў пад няўпынны гоман-крык кагарак ураз зьявіўся даўгі рад сталоў , а на покрывах іх Богам дадзеныя даброты-стравы. І «елі смачна й багата, на тое-ж даў Бог людзям сьвята».

А там, дай Божа зарак 12-га паломніцтва прыждаці!

---

## ЖАНЧЫНА. ПЛЯНЭТА. БУДУЧЫНЯ.

На такую тэму мае хутчка адбыцца ў Менску ФОРУМ, арганізаваны жаночай арганізацыяй ФОНД ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ пад старшынствам паэткі Валянціны Коўтун. Тэма Форуму шырокая й глыбокая навеела сяброўцы ФОНДУ ЕЎФРАСІНЬНІ ПОЛАЦКАЙ з Канады такія думкі:

Жанчына-беларуска думае над будучыняй плянэты й Беларусі. Над будучынёй плянэты думае й адпаведна дзеіць увесь цывілізаваны сьвет. Над будучынёй Беларусі, у пазытыўным сэнсе, могуць думаць толькі беларусы, у нашым выпадку - жанчыны-беларускі. А думаць пра будучыню беларускай нацыі й Беларусі трэба, бо што як захаваем плянэту, а на ёй не акажацца мейсца для беларускага народу, для Беларусі? Не вялікая нам з гэтага будзе радасьць.

Будучыня ёсьць кансэквэнцыяй прошласьці, цяпершчыны й залежыць ад мяне - ад кожнага з нас.

Прошласьць мінула безпаваротна, яе зьмяніць нельга, але цяпершчына - сяньня належыць да нас і залежыць ад нас. Я , жанчына-беларуска, непаўторны Боскі твор атрымала ад Бога вялізарны дар - жыцьцё. Атрынмала й іншыя дары-здольнасьці. Ды атрымала я, як і кожная жанчына-беларуска, да выкананьня на працягу свайго жыцьця і пакліканьне-заданьне. Ад таго як мы сваё пакліканьне - пасланства выканаем, залежыць наш уклад у будучыню Беларусі - пазытыўны або нэгатыўны.

Якое-ж гэта пасланства ад Бога выпала жанчынам-беларускам, пра якіх Алесь Звонак кажа:

Гордасьць , пэўна, ўзялі вы ў Рагвалодавай Рагнеды,
Дум ясноту Еўфрасіньня, пэўна, ў спадчыну дала.
Кроў свавльных крывічанак бунтавала вас у бедах -
Пакідалі вы сьвятліцы, бралі ў рукі вы булат.

Адказаць ён на гэтае пытаньне сяньне важна, бо ад выкананьня нашага жыцьцёвага заданьня залежыць будучыня ня толькі нас саміх, нашых сем'яў, але й будучыня беларускага народу, будучыня Бацькаўшчыны- Беларусі.

Кожнай жанчыне наканавана ўзгадаваньне нашчадкаў. І перад жанчынай-беларускай стаіць велічнае заданьне гаварыць да свайго немаўляці, дзіцяці, дзецей, унукаў заўсёды і толькі **пабеларуску.** Для нашых матак, прыкладам мае асабіста мамы, гэта не прадстаўляла вялікага заданьня, гэта было для яе звычайнай патрэбай жыцьця, такой самай патрэбай, як дыханьне. Яна, не магла ня дыхаць і яна не магла не гаварыць да мяне , да сваіх дзяцей толькі пабеларуску.

Але для цяперашняе жанчыны-беларускі, якая усё сваё жыцьцё пражыла ў Беларусі - у жахлівых, ненармальных, нялюдзкіх духовых абставінах - гаварыць да свайго немаўляці, дзіцяці й унука заўсёды пабеларуску - можа вымагаць вялізарнага духововага высілку.

А будучыня нашая якраз залежыць ад таго, як мы сяньня будзем паступаць. Калі будзем гаварыць да сваіх дзяцей, да свяе сямі **толькі пабеларуску,** мы гэтым самым будзем узгадоўваць у іх пашану да самых сябе, да ўсяго свайго роднага, да свае роднае мовы, культуры, гістарычнае спадчыны, да Беларушчыны.

Калі-ж будзем гаварыць да сваіх дзяцей, свае сямі на чужой мове, найбольшым шансам ёсьць, што ўзгадуем сваіх нашчадкаў нацыянальнымі нігілістамі, а ад гэтага адзін толькі крок да рабства, ды другі да манкуртства, што значыць, нашыя нашчадкі могуць памагаць панявольнікам нішчыць ўсё беларускае, нішчыць беларускі дух - беларускую мову, нішчыць беларускую нацыю. Значыць, такім чынам для будучыні **мы** прыгатаўлялі-бы сьмерць беларускае нацыі, сьмерць Беларусі .

Таму сяньня жанчыне-беларусцы трэба прызадумацца й зрабіць выбар. Просты выбар: ці пачынаючы ад сяньня я буду гаварыць да сваіх дзяцей, да свае сям'і на роднай беларускай мове й узгадоўваць іх на карысных прадстаўнікоў беларускага народу, ці буду гаварыць да іх на чужой мове й гэтым самым узгадоўваць у іх нацыянальны нігілізм, рабства, ды крый Божа манкуртызм?

Слова «манкурт» страшнае, абразьлівае. Калі той злачынца, што зрабіў з чалавека «манкурта», скажа яму: «Забі сваю матку, манкурт ня думаючы заб'е родную матку».

А тыя беларусы, што вясной 1995 году ў рэфэрэндуме галасавалі супраць Пагоні й Бел-чырвона-белага сьцягу, галсавалі за тое, каб надаць расейскай мове дзяржаўны статус у Рэспубліцы Беларусь, што ў практыцы, як бачым, значыць галасавалі за зьнішчаньне беларускае мовы, і ўсяго беларускага, як вы тых беларусаў назавеце?!

Такія думкі навеяла мне вестка, што ў Менску хутка адбудзецца, арганізаваны Фондам Еўфрасіньні Полацкай, форум на тэму: «Жанчына. Плянэта. Будучыня. »

Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая, асьветніца Беларусі , маліся за нас, памажы нам, каб мы, выконваючы нашае пасланства, ўзгадоўвалі нашых дзяцей у пашане да самых сябе, у пашане да ўсяго свайго беларускага - свае роднае беларускае мовы, культуры, свае гістарычнае спадчыны, у пашане й любоў'і да Беларушчыны - да Беларусі.

Жыве Беларусь!

Раіса Жук-Грышкевіч

---

Ларыса Геніюш

## НАШ СЬЦЯГ

Ня слава Краю, уздым магутны,
на'т ня шумелі мне сьцягі....
Заместа іх зьвінелі путы
і цёмнай ноччу ланцугі.

Заместаа водгульля Пагоні
яшчэ сягоньнмя, як крумкач,
у набалелым сэрцы звоне
жанчыны беларускай плач.

Дзявочы твар бляды ад жалю,
дзяцей спалоханы пагляд
і кроў братоў, што бунтаваліср...
я толькі гэткі знаю сьцяг !...

За жар душы, што набалела,
за сэрца зораны агонь,
я, Божа, чуць хоць раз хацела-б
шум сьцягу роднага свайго,

Калі Крывіцкая Зямліца
мне сэрца гордае саўе,
а польны вецяр расшуміцца,
на разьвітан.не запяе, -

няхай разгорне свае крыльлі,
як стораж вечнага жыцьця,
хай зашуміць хоць на магіле
мне бел-чырвона-белы сьцяг.

Са зборніка Ларысы Геніюш «Ад Родных Ніў». Прага, 1942 год.

---

Таронта-Бэры,
Чэрвень, 1999

Др. Раіса Жук-Грышкевіч,
Старшыня

---